# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 2 (1652) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 10 СТУДЗЕНЯ 1988 г. ЦАНА 12 зл.


З рэпарцiёрскiх ЗАПІСАК

## КАЛЯДА, КАЛЯДА...

Калі набліжаюцца Калядныя святы, дык сярод паху ўпрыгожанай ёлачкі і ўсялякіх страў прыходзіць мне ў галаву вясёлая, хоць па-народнаму і грубаватая гумарыстычная песенька:

Каляда, каляда,
Белая ад снегу барада.
Распаліла баба печку,
А дзед думаў пра авечку,
Пра авечку і акрасу
І пра свежую каўбасу...

...і далей, як у сапраўднай, сур'ёзнай каляднай песні, скажам такой, як *„Во Вифлееме“*, якую даводзілася спяваць мне ў дзяцінстве, каб заваяваць у бацькі права на адну цукерку з тых, што ўпрыгожвалі калядную ёлачку.

Праз многа гадоў, калі вырваўся я з мужыцкай вёскі ды пачаў шукаць свайго шчасця і сэнсу жыцця па розных школах і універсітэтах, давялося мне пазнаёміцца з даследаваннямі калядных звычаяў, якія праводзіў калісьці прафесар Юльян Кжыжаноўскі — адзін з выдатнейшых польскіх гуманістаў сярэдзіны XX стагоддзя. Пра калядныя песні пісаў ён так: „Датай узнікнення сягаюць яны сярэдневякоўя, некаторыя XV і XVI стагоддзяў, прытым гэта часта проста пераклады або апрацоўка адпаведных латынскіх або чэшскіх тэкстаў. І так, калядная песня, знойдзеная ў рукапісе з 1424 года, „Будзь здароў, кароль анельскі, к нам на свет у целе прышоўшы“, створана, праўдападобна, на аснове чэшскай, а вядомая і да сёння калядка „Ангелы вешчают...“ заснавана на латынскім арыгінале...“.

І далей гэты вучоны даказвае: „Эпохай найбуйнейшага росквіту польскіх калядак, калі яны набылі вядомую і да сёння эпічную форму, з'яўляюцца XVII-XVIII стагоддзі...“

Прафесар Ю. Кжыжаноўскі гаворыць пра радаслоўную польскіх калядных песень. Нашы дзяды-прадзеды, што жылі ў тыя далёкія вякі, безумоўна, знаходзіліся пад прыгнятальным уплывам польскай культуры. Рэлігійная унія ў той час так глыбока ўжо закаранілася ў свядомасці просталюдзінаў, што

(Працяг на стар. 4)



Гайнаўка, царква Святой Тройцы, мураваная, від на купалы (фота Л. Пільскага). Фотарэпартаж аб гэтай царкве „...І на зямлі мір“ — на старонцы 7.




### „НІВА“ ПАВІННА БЫЦЬ ВАЖНАЙ ГАЗЕТАЙ!

Чытаю я розныя вывады наконт таго, што людзі не хочуць чытаць „Ніву“. Чытаю я гэта ўжо гадамі цэлымі, а „Ніва“ ўсё выходзіць. Шмат у гэтых разважаннях здзіўлення, пытанняў, аднак адказу сур'ёзнага не вычытаў я. Вызначыць профіль, характар часопіса, яго лінію — проста. Гэтакім будзе часопіс, якім будуць яго чытачы. І ўзровень ягоны, таксама, застаецца ў залежнасці ад чытачоў. Калі выдаецца часопіс людзям простым, мала што разумеючым у гэтым свеце, дык інтэлігентны чытач, вядома, не возьме яго ў рукі, бо будзе ён для яго нудны.

Той або іншы аўтар можа злавацца, што ягоны артыкул не чытаюць так як трэба. Такая злосць тут без сэнсу, бо кожны чытач прачытае артыкул пасвойму. Можна злавацца яшчэ іначай: нехта апублікаваў артыкул у „Ніве“, хоча, каб гэты артыкул усе чыталі, а тут на табе! — не чытаюць, не хочуць чытаць. Пры гэтым нашы маладыя людзі часта маюць такі адказ: чытаем толькі па-польску, хоць і гаворым паміж сабою пасвойму. Маладых не цікавяць, напрыклад, публіцыстычныя опусы пра цэп, бо яны ўжо нават і не ведаюць, што гэта такое, той цэп... Маладых не цікавяць, таксама, нейкія падрахункі ста-

(Працяг на стар. 4)

## У КАЛЯДЫ...

У Каляды шчодрыя,
у завеі белыя,
Ты прыйшла, чароўная,
ты прыйшла, нясмелая.
Вечар, закахаўшыся,
плыў, як чоўн, над горадам,
Ты такая сціплая
і такая гордая...
Прыхіліся птушкаю —
вось маё плячо,
Цуд мой неразгаданы —
мілае дзяўчо!
Вусны — спелай ягады —
буду піць і піць,
У Каляды шчодрыя
бубен будзе біць.

Алесь Кавальчук,
Брэст






**НА мяжы**

### АБРАЗОК ТРЭЦІ

# Аб першым дні акупацыі

Пасярэдзіне вёскі, каля „Рыгоравых“ стаіць распрануты да пояса даўгавязы пажылы немец. Трымае ён у руках пнеўматычнае ружжо і страляе вераб'ёў. Немец, як толькі каго пабачыць, ківае пальцам і гаворыць па-руску: „Иди суда“. Спачатку акружаюць немца дзеці. Загадвае нам прыносіць пастраляных вераб'ёў, якіх ён укладвае акуратненька ў радочак на сцежцы. Адзін паранены верабей ляціць проста на немца, ударaецца ў яго голыя грудзі і падае на пясок. Немец прыціскае яго ботам і душыць. Невядома чаму не кладзе яго побач іншых забітых вераб'ёў, а толькі спіхае ботам у каляіну і засыпае пяском. Пабачыўшы старэйшых жыхароў вёскі, немец кліча іх да сябе. Праз нейкі час збіраецца чалавек сем і каля дванаццаці дзяцей. Немец перастае страляць вераб'ёў і пачынае рабіць „даклад“. Выгладжвае ботам пясок, ставіць на заходнім краі гэтага поля абцас і тое ж самае робіць на ўсходнім краі. Пасля бярэ галінку, піша пры заходнім абцасе літару Б, а пры ўсходнім М. Пачынае гаварыць: „Я сольдат 1914 год. Я воеваль с генераль Брусілёв. Белёсток Москва тысяча кілёметр. Германский армия идёт вперед сто кілёметр. Через десять сутки будет парад и будет фюрер принимать парад“. Немец выцягвае ўпалыя, худыя грудзі і пачынае паказваць, як немцы будуць ісці па Краснай плошчы. Яго боты ўзбіваюць вулічны пыл. Адыйшоўшы крокаў на дзесяць, паварочваецца і пачынае зноў адбіваць крокі. Затрымоўваецца і гаворыць далей: „Красный армия — хаос. Будённый, Ворошилёв, Сталин — хаос. Красный армия капут. Будённый — капут. Ворошилёв — капут. Бензин — нет, снарад — нет. винтовка — нет. Красный армия — большой плен. Сталин — капут! Ленин из мовзолея — вэк!“

Закончыўшы „даклад“, немец глядзіць на ўсіх уважна і вельмі задаволена. Пасля нечакана гаворыць: „Все идёт по домам: все расходись!“

Мужчыны разыходзяцца, за імі ідзем і мы. На панадворку ў Міруцёвых затрымліваюцца Язэп Міруць, Ладзік Бура і Сцяпан Бура. Каля іх затрымліваемся і мы. Язэп Міруць пачынае гаварыць:

— Немцы ўжэ за Валкавыскам. Яшчэ далей пойдут.

— Ну, але як жэш далеко яны запрут ешчэ? — пытае Ладзік Бура.

— Дойдут да старое польскасавецкае граніцы і далей не пойдут.

— А чом не пойдут? — пытае Ладзік.

— А том не пойдут, што там пад Мінскам так умоцнена граніца, што не толькі не перойдзе салдат, не праедзе матацыклет чы браневік, але нават ні праляціт птушка.

— Чы можэ быці такое? — сумняваецца Сцяпан Бура.

— Можэ быці. Там саветы дваццаць лет умацнялі граніцу. Там кругом адзін бетон і сталь, зтоль ні адзін жывы немец ні вернецца, усе там лягут.

— Ну, а калі гэто можэ стацца? — дапытваецца Ладзік.

— Ну, калі, я так думаю, што можа за які тыдзень.

— А чом жэш гэто саветы так много кругом на дарогах аружыя пакідалі? — пытае Сцяпан.

— Гэто усе ірунда. Тут яны толькі барахло мелі. Ено ім усім ні патрэбнэ. На той граніцы у іх усё новэ. Там такое аружые, што адзін салдат, з его стрыляючы, можэ палажыць цэлы полк немцоў.

— Та чом жэш тут іх адразу ні выкідрышылі і ні пашлі на Берлін? — упіраецца Ладзік.

— А на чорта саветам ісці на Берлін? Ніхай немец увалачэ сюды сваю цехніку, абозы, хлеб, абмундзіраванне, коні — то усё, як разхвошчуць немца, застанецца у нашых руках. Небось хутко зноў саветы ў нас будут. Мне так здаецца, што ешчэ Варашылава і Будённага на жарабцах пабачым у Бандарах!

Нечакана паяўляецца на вуліцы паўголы, знаёмы немец. Накіроўвае ён на нас сваё ружжо:

— Я сказаль идти домой! Вэк, вэк! Идти домой! Вэк, вэк!

Старэйшыя разыходзяцца, а мы праз платы накіроўваемся ў другі канец вёскі.

**Алесь Барскі**

**З ДРУКУ**

### „ПОЖНЮ“ ЧЫТАЮЦЬ У ВАРШАВЕ І Ў МІНСКУ

Кніжка нашага, *„ніўскага“* аўтара, Васіля Петручука *„Пожня“* перш выйшла ў перакладзе на польскую мову. Як гэта нярэдка бывае, ніхто з яго сімпатыкаў і ён сам не спадзяваліся, што выкліча яна такое вялікае зацікаўленне ў чытачоў. Васіль Петручук атрымлівае шмат пісем ад чытачоў ягонай *„Пожні“* ў Польшчы і Беларусі (родная яму вёска Грабавец, што ў Дубіцкай гміне, раптам зрабілася слаўнай!).

А вось што піша Аляксандр Баркоўскі з Мінска пасля прачытання *„Пожні“*: *„Чытаў яе і хлопцам на рабоце ў час абедзеннага перапынку, уголас. Яна ўсім спадабалася.“* І далей піша, што цяпер„...*калі майстар дасць недарэчнае заданне, то яму гавораць: А Петручук бы так не зрабіў“*.

Ірэна Шулеўская з Варшавы, якая перажыла варшаўскае паўстанне, як і беларус Баркоўскі, належыць да гарачых прыхільнікаў Петручуковага таленту. Шулеўская нават заступаецца за добрае імя аўтара *„Пожні“* (чытала яе ў польскім перакладзе, вядома). Калі ў якой газеце трохі нядобра хто адазвецца пра *„Пожню“*, яна зараз жа пасылае туды свой пратэст.

Такіх абаронцаў можна толькі пазайздросціць Васілю Петручуку. Гэта ў нейкім сэнсе знак часу ды эпохі, але гэта ж і знак спеласці нашага літаратурнага руху, які, нарадзіўшыся ўсяго трыццаць гадоў назад, ужо мае свае трывалыя ў шырокай культуры здабыткі ў выглядзе творчасці шэрагу *„белавежцаў“*.

У трыццаць чацвертым нумары ілюстраванага часопіса *„Нова Весь“*, які выдаецца тыражом у трыста тысяч экземпляраў, змешчана аж на двух старонках гутарка з Васілём Петручуком. Урыўкі гэтай гутаркі перадаем ніжэй.

— Kiedyś trafił do moich rąk tygodnik „Niwa“, adresowany do mieszkających w Polsce Białorusinów. Zdziwiłem się, że doskonale rozumiem zamieszczone tam teksty, mimo że nie uczyłem się literackiego języka białoruskiego, a w dzieciństwie mówiłem dialektem. Nagle ogarnęła mnie fala wspomnień. Natarczywe, obsesyjne, same prosiły się, abym je spisał. Pierwsze króciutkie opowiadanie zaniosłem do redakcji „Niwy“. Napisałem je po białorusku, bo wydawało mi się, że tylko język mojego dzieciństwa będzie w stanie wyrazić to wszystko, co kiedyś przeżywałem. Mój utwór spodobał się i dość szybko awansowałem na jednego z felietonistów „Niwy“. Miałem swoją stałą rubrykę p.t. „Z majoj zwanicy“. Bywając w redakcji poznałem wielu pisarzy tworzących w języku białoruskim. Jeden z nich, Sokrat Janowicz, namówił mnie, abym poszerzył drukowane w „Niwie“ opowiadania i zrobił z nich większą całość (...) Porównywałem kiedyś folklor Polski do bukietu kwiatów. Znajduje się w nim także skromna, lecz piękna białoruska gałązka. Byłoby szkoda, gdyby zginęła. A grozi jej to. Białorusinki starają się mówić do swoich dzieci tylko po polsku, zaś ci, których „wywiało“ do Białegostoku, często zmieniają swoje nazwiska, sądząc że z lepszą „metką“ personalną będzie im łatwiej zaaklimatyzować się w nowym środowisku. Tymczasem oderwać się od swoich korzeni nie jest wcale łatwo. Strój mieszczucha jest ciasny i niewygodny dla tych, którzy wychowali się na wsi. (...) Bohater mojej następnej książki jest chyba tragiczniejszy od małego Waśki ze „Ścierniska“. Jest wprawdzie syty, ale rozdarty wewnętrznie.

## »ліст—падзяка«

**Дарагі і шаноўны Юрка Валкавыцкі!**

На працягу трыццаці двух гадоў ішоў ты ў першых радах Беларускага грамадска-культурнага таварыства і ні аднаго разу не пакінуў нашай перадавой, незалежна ад таго, ці было на ёй зацішша, ці праціўнік атакаваў нашы пазіцыі.

БГКТ паставіла цябе на найбольш адказны пост культурнага фронту, даручыла табе адзіны свой орган „Ніву“ і, калі б не твае галоўныя ворагі — гады, дык і надалей хацела б, каб ты вёў у будучыню нашу родную „Ніву“ так, як вёў яе ў мінулым. Усе мы горача верым, што перастаўшы быць штатным рэдактарам „Нівы“, надалей будзеш рэдактарам-дарадчыкам, рэдактарам-кансультантам, рэдактарам — добрым духам.

Не толькі плеяда выхаваных табой прафесійных журналістаў, але і мы, карэспандэнты, і мы, паэты, і мы, чытачы, назаўсёды захаваем ва ўдзячнай памяці такія твае рысы, як лаяльнасць, адкрытасць, самаахвярнасць, аб'ектывізм, вернасць, добразычлівасць, альтруізм. Нават найбольш несправядлівы чалавек не прыпіша табе хітрасці, крывадушнасці, скупасці, нелаяльнасці, драпежнасці, агрэсіўнасці.

„Ніва“ з'яўляецца супольнай нашай уласнасцю, агульным нашым багаццем і ў ніякім выпадку не маем права гэта багацце змарнатравіць, растраціць, зубожыць.

Моцна верым, дарагі сябра Валкавыцкі, што яшчэ многія гады ты будзеш разам з намі, што стан твайго здароўя палепшыцца, а твой вечна малады інтэлект выкаласіцца не адным буйным ураджаем на бэгэкатоўскай ніве.

Можаш не сумнявацца, што будзеш нам патрэбны заўтра, так як быў нам неабходны ўчора, і кожны сапраўдны актывіст БГКТ найцяплейшае месца ў сэрцы прызначае для цябе дарагі наш дружа.

Беласток, 14.12.1987 г.

За Прэзідыум ГП БГКТ

**Аляксандр Баршчэўскі**



**Сакратар ГП БГКТ Віталій Луба дзякуе за супрацоўніцтва шматгадоваму галоўнаму рэдактару „Нівы“ Георгію Валкавыцкаму (справа).**

**Фота Здзіслава Зарэмбы.**





Арыгінальныя купалы былой царквы Св. Мікалая ў Гайнаўцы (дрэва). Фота Л. Пільскага.

Уваход у новую царкву, метал. Фота Л. Пільскага



У Чыжах. Сюды перайшла на далейшае жыхарства старая гайнаўская царква. Фота В. Рудчыка.

# ...І НА ЗЯМЛІ МІР

Адным з найбольшых векапомных помнікаў культуры і архітэктуры Гайнаўкі (ды і ўсяе Беласточчыны) з'яўляецца царква Святой Тройцы. Яна, прыпомнім, пабудавана сіламі і сродкамі праваслаўнай грамадскасці Беласточчыны. Аднак найбольшы ўклад далі тут праваслаўныя Гайнаўшчыны і самой Гайнаўкі — беларусы.

Царква настолькі прыгожая і арыгінальная, што адразу пачала прыцягваць наведвальнікаў і турыстаў. Ніводная экскурсія не праміне гэтага архітэктурнага комплексу, каб хоць знешне не паглядаць яго. Купалы, уваходы, роспісы — усё гэта цікавіць. Ва ўсіх застаецца моцнае ўражанне ад арыгінальнасці, узнёсласці, павагі.

На гэтым жа царкоўным пляцы стаяла раней старая царква, драўляная. Яе клапатліва разабралі і пабудавалі ў Чыжах, дзе, як мы ў свой час пісалі, згарэла царква — каштоўны помнік царкоўнай архітэктуры з арцыкаштоўнымі фрэскамі. Значыць, жыве старая драўляная гайнаўская царква ў Чыжах сваім новым жыццём.

Сёння, у Калядныя святы, мы хочам паказаць цікавы фотарэпартаж пра гайнаўскую царкву — цэнтр праваслаўных беларусаў горада і ваколіц. Здымкі розных аўтараў. Мы іх публікуем на памяць.

**Вера Валкавыцкая**

# БЕЗ ТАТЫ І МАМЫ

(Працяг са стар. 3)

— Многія з нас былі апрануты толькі ў летнія кашулькі і кароткія штонікі, адным словам па-піянерску, між іншым, і я, — успамінае Эдвард Станішэўскі. На дадатак, у Гальянах не было школы, якая змагла б памясціць дадаткова яшчэ 200 вучняў. Генрык Малышка кажа, што яны неяк перазімавалі ў гэтых Гальянах, а на весну дырэктар Пеўзнер пастараўся, каб перавялі іх у іншае месца, болей прыдатнае для далейшай пабыўкі і заснавання пастаяннага **спецыяльнага дзіцячага дома.** Так яны апынуліся ў Каракуліне. Гэта таксама над ракой Камай, але нейкіх 100 кіламетраў на поўдзень ад Гальян і 58 кіламетраў, таксама на поўдзень, па шашы ад Сарапула.

— Здараецца, што я ў сне вяртаюся да гэтых мясцін і перад маімі вачыма плыве глыбакаводная Кама. Яна шмат шырэйшая і глыбейшая за нашу Віслу, асабліва ў час веснавых разліваў, тады сапраўды цяжка позіркам дасягнуць да другога берага.

Такі малюнак Каракуліна замацаваўся ў памяці Рамуальда Зайкоўскага, які свае пасляваенныя гады правёў амаль выключна ў Варшаве.

— Памясцілі нас у трох драўляных будынках, — расказвае ён. — У найвялікшым — адміністрацыя нашага дзіцячага лагера і дзяўчаты. Хлопцы найперш памяшчаліся разам у іншым будынку, які знаходзіўся ў 150-200 метрах далей, а пазней з групы хлопцаў адабралі старшакласнікаў і памясцілі іх асобна ў невялікім будынку.

Магчыма таму, што яны хадзілі працаваць, займаліся гаспадаркай. Усе будынкі пабудаваны былі з тоўстых круглых бярвенняў, з улікам цяжкіх, прыуральскіх маразоў.

Зімой было цяжэй. Эдвард Станішэўскі кажа, што здараліся маразы больш 50 градусаў. Паветра мерзла на вуснах. Асабліва ў час першай ваеннай зімы, калі гітлераўцы намагаліся захапіць Ленінград і Маскву. Тады і ў нас на Беласточчыне, як кажуць старэйшыя людзі, таксама вымерзлі ўсе сады.

— У гэтакі мароз нават у школу мы не хадзілі, — кажа Эдвард Станішэўскі. — Найчасцей збіраліся ў сталоўцы, бо там было найцяплей і сядзелі, закутаўшыся ў што хто меў.

Дырэктар Пеўзнер да гэтага часу пастараўся дастаць нейкую цяплейшую вопратку.

— Якая яна была? — паўтарае маё пытанне Генрык Малышка. — Самая розная, якую толькі ўдалося здабыць. Памятаю, што найбольш я цешыўся, калі атрымаў рабочую ватаваную фуфайку, бо тады ўжо мы ездзілі на нарыхтоўку дроў.

За дзіцячым домам у Каракуліне замацавана было звыш 50 га зямлі. Дзеці самі яе апрацоўвалі. Дырэктар Самуіл Пеўзнер назначыў сваім намеснікам па гаспадарчай частцы Рамуальда Зайкоўскага.

— Вы не здзіўляйцеся гэтаму, — кажа палкоўнік. — Гэта толькі цяпер я па выгляду такі каржакаваты. Ад пабыўкі ў Каракуліне, здаецца, я нямнога ўжо і падрос. А тады я сапраўды выдзяляўся сярод сяброў і ростам, і сілай, і бадзёрасцю. Магчыма, таму дырэктар Пеўзнер і ўзваліў на мяне турботы па арганізацыі дзетдомаўскай гаспадаркі. Трымалі мы ўласных коней, мелі некалькі каровак, крыху свіней і авечак, якія папаўнялі вельмі ж скупыя дзяржаўныя надзелы харчавання. Кармілі, даілі, аралі і сеялі... Усё ўласнаручна!

— Дык вы ж да гэтай пары ніколі ні касы, ні плуга ў руках не трымалі! — спыніў я расказ палкоўніка Зайкоўскага.

— Гэта праўда, — згадзіўся ён са мною. — Жыццё, аднак, усяму навучыць. Нашы дзяўчаткі, для прыкладу, таксама кароў бачылі найчасцей на малюнках у школьных букварах, аднак там, у Каракуліне, хутка прывучыліся карміць і даіць іх, ды яшчэ і агарод даглядалі, самі вырошчвалі вельмі каштоўную для нас розную агародніну.

— Праца ў нас была добра наладжана, — кажа Генрык Букерт. — Кожны рабіў тое, што яму было прыпісана. А здаралася, што і больш. Дзяўчаты, для прыкладу, пасвілі кароў у стэпе, там жа іх і даілі, а пры гэтым здаралася, што найперш падаілі суседскія, калгасныя кароўкі... Нам, хлапчукам, для прыкладу, здаралася „пазычаць" крыху бульбы ў суседняга калгаса. Не здзіўляйцеся гэтаму. Рабілі мы добрую справу, бо ў калгасе не хапала рабочай сілы, каб усю бульбу сабраць з поля да першых замаразкаў, якія там ужо ў верасні... І што там бульба! Мы і збожжа ўхітраліся „пазычаць". Пашле, бывала, дырэктар Пеўзнер групу нашых хлопцаў за аўсом або пшаніцай, каб звезці яе з дзетдомаўскага палетка, а ехаць трэба далёка, больш за 10 кіламетраў, коні марудна валакуцца стэпавымі дарогамі, а тут побач — збожжа калгаснае, высушанае, на зямлю абсыпаецца, проста аж просіцца... Дырэктар Пеўзнер нахваліцца не мог, што гэтакі цудоўны ўраджай атрымаўся на вучнёўскім палетку.

— Памятаеце нашу кухарку? — Генрык Букерт звяртаецца да сваіх каракулінскіх сяброў. — Яна была з Ленінграда эвакуіравана, старэйшая жанчына. Пекла яна нам найсмачнейшыя аладкі, бліны, такіх я ніколі болей у сваім жыцці не прабаваў. Куды да іх было па смаку нашаму дзяржаўнаму, ваеннаму хлебу, у якім больш было бульбы і вотруб'я, чым мукі.

Генрык Букерт спыняе свае ўспаміны, каб закурыць чарговую папяросу.

— Ці ад гэтага „раскошнага" жыцця рашылі вы ўцякаць? — крыху іранічна пацікавіўся я.

— Не, гэта было зусім інакш і многа пазней, калі паслалі мяне назад у Сарапул для навукі прафесіі...

Аднак гэта ўжо зусім іншая гісторыя, аб чым раскажу пазней.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАК ЖАДАЕ „ЗОРКА"



## „БАРВІНКУ" 60

У студзені гэтага года кіеўскі дзіцячы журнал „Барвінок" святкуе сваё 60-годдзе. Хоць выдаецца ён у Кіеве, на Украіне, але і дзеці на Беларусі, а таксама і на Беласточчыне добра яго ведаюць. У Беластоку рускае выданне журнала можна купіць у кожным кіёску „Руху", а ў многіх школах „Барвінок" выкарыстоўваецца на ўроках рускай мовы ў малодшых класах як дапаможнік.

Хоць „Барвінок" па ўзросту ўжо як барадаты дзядуля (малады яго рэдактар Васіль Маруга збіраўся пад гадавіну адгадаваць вялізную бараду), умее гаварыць з малымі чытачамі. Ён друкуе шмат прыгожых вершаў, цікавых казак і апавяданняў. Ён расказвае аб жыцці дзяцей на Украіне і ў іншых савецкіх рэспубліках. Знайсці ў ім можна шмат гумару — вясёлых малюнкаў і дасціпных жартаў. Ад 1928 года журнал „Барвінок" выходзіць на ўкраінскай мове, а ад 1950 — яшчэ і на рускай, што значна пашырыла круг яго чытачоў.

Кіеўскі „Барвінок" — вельмі блізкі сябар мінскай „Вясёлкі". У мінулым годзе, калі „Вясёлка" адзначала сваё 30-годдзе, „Барвінок" прыязджаў у Мінск, каб яе павіншаваць. Тады ж, у Мінску, „Барвінок" пазнаёміўся і з нашай „Зоркай" і тады ж стаў яе сябрам.

І сёння, у такі ўрачысты для „Барвінка" час, „Зорка" віншуе свайго старэйшага сябра з яго вялікім святам і жадае яму быць заўсёды вясёлым, каляровым і цешыць сваіх чытачоў добрым сардэчным словам.

Барвінок — гэта вельмі сціплая, маленькая сіненькая кветачка, якую можна сустрэць у прылесках, на лугах. Кожная сустрэча з ёю радуе чалавека. Дык няхай і нашы сустрэчы з кожным нумарам „Барвінка" будуць жаданай, чаканай радасцю.

Жыві вечна, сябар „Барвінок"!

„Зорка"



**Калі б дзеці ўсёй зямлі, за рукі ўзяўшыся, ў круг стаць маглі...**

**Васіль Маруга**

### ЛЯСНАЯ АВАРЫЯ

*Хто галосіць?*
*Дзе, цікава?*
*Што за дзіўная праява?..*
*Раскажу вам па парадку:*
*Галалёдзіца была,*
*А сарока на пасадку,*
*Абляцеўшы лес,*
*Ішла.*
*Паслізнулася няўдала*
*І з дубка ў сумёт упала.*
*Можа просіць дапамогі —*
*Паламала рэбры, ногі?*
*Бо і ў мяккенькі сумёт*
*Падаць з вышыні —*
*Не мёд!*
*Спачуваюць птушкі зверху,*
*А сарока ўсё крычыць.*
*Ды чамусьці я не веру,*
*Што і праўда ёй баліць.*
*Вось загадка, вось марока:*
*Ці разбілася сарока?*

**З украінскай мовы пераклаў Мікола Маляўка**

## У ЛАСІНЦЫ

Ад восені, калі распачаўся новы школьны год, у Пачатковай школе ў Ласінцы пачаў працаваць **Гурток беларускай мовы.** Яго арганізавала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк. Ахвотных працаваць у гуртку многа. Вельмі ж хочуць хадзіць меншыя дзеткі. З другога класа просяцца. Настаўніца паабяцала, што прыме іх ад паўгоддзя.

Гурток і заняткі ў ім вельмі ж актывізавалі дзяцей да пісання ў „Зорку" лістоў, вершаў. Асабліва любяць заняткі ў гуртку і пісанне аб школе ў „Зорку" дзве вучаніцы IV класа Ася Коўнер і Ала Гайдук. Дзве гадзіны заняткаў у гуртку ім замала — яны хацелі б займацца па дзве гадзіны кожны дзень.

Гурток ужо наладзіў новую экспазіцыю этнаграфічнага пакоя, дзе адбываюцца заняткі. Вучні вышукоўваюць, прыносяць новыя экспанаты, вельмі цікавыя і багатыя.

Працуюць над пастаноўкай казахскай казкі „Дзяўчынка Біс", якую інсцэнізавала для свайго гуртка Ніна Абрамюк. З гэтай пастаноўкай хочуць прыняць удзел у конкурсе беларускіх школьных тэатраў. (вв)

## МІНСКІ ТЭАТР З 1689 Г.

У Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна ў Маскве захоўваецца цікавы гістарычны дакумент — кніжка з васьмі старонак вялікага фармату. Гэта праграма тэатральнай пастаноўкі, якая адбылася ў Мінску амаль 300 гадоў назад. Адзіны ўнікальны экземпляр гэтай праграмы расказвае нам пра першую п'есу, пастаўленую ў Мінску.

Надрукавалі праграму ў 1689 годзе ў Вільні вельмі невялікім тыражом. Цяпер праграма захоўваецца ў фондзе старадрукаў. У гэтым шматтысячным фондзе кніжных рэдкасцей усіх часоў і народаў удалося адшукаць і праграму старэйшай п'есы, якая была пастаўлена ў Мінску. П'еса насіла доўгую, як звычайна ў тыя часы, назву: „Трыумфальная арка Госпаду Богу недаступнаму, пераможнаму ў асобе святых Глеба і Барыса з герба яснавяльможнага яго міласці пана Марцыяна князя з Казельска Агінскага, канцлера Вялікага княства Літоўскага, мсцібоўскага, радашковіцкага, дарсунішскага і інш. старасты, узведзена і бессмяротнай славы наследніку і нашчадку святых Глеба і Барыса князёў рускіх, мучанікаў хрысціянскіх, міласціваму патрону цяпер тут на ўрачыстым сходзе прадстаўлена і паднесена ад моладзі высакароднай мінскіх школ таварыства Ісусава".

Галоўнымі героямі п'есы з'яўляліся старажытнарускія князі Барыс і Глеб, якія сталі для ўсходніх славян — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў своеасаблівым сімвалам нацыянальнага яднання.

У першым акце, раздзеленым на шэсць сцэн, паказваецца, як кіеўскі князь Уладзімір Манамах „аддае булаву тром сваім сынам: Глебу, Барысу і Святаполку", „Святаполк са сваім гетманам Блудам і іншымі слугамі арганізоўваюць змову супраць Глеба і Барыса". У сямі сцэнах другога акта паказваецца, як „Святаполк збіраецца ў паход супраць князёў — братоў сваіх". У трэцім, чацвёртым і пятым актах ідуць сцэны забойства Глеба і Барыса, Святаполк захоплівае трон і „загадвае зваць сябе манархам". Але вось наступае справядлівая адплата — князь „Яраслаў нападае на злодзея... загадвае адсячы галаву на троне". У эпілогу ўсхваляецца „Дом Агінскіх" за тое, што ў гербе сваім патронамі мае Барыса і Глеба.



Сярэдневяковыя маскі, у якіх выступалі акцёры.

Акцёрамі з'яўляліся вучні калегіі (школы), іх імёны пералічаны ў канцы праграмы: усяго амаль 60 удзельнікаў, якія ігралі ролі князёў Уладзіміра, Яраслава, Глеба, Барыса, Святаполка, Усевалада, гетманаў, палкоўнікаў, чэлядзі і г.д.

Пав. Ю. Лабынцава

# МАЛАДЫЯ МЕЛАМАНЫ З ДУБІЧ ЦАРКОЎНЫХ

Гэтыя здымкі перадаў нам гайнаўскі фатограф Лех Пільскі. А зрабіў іх на адкрыцці нова пабудаванага прыгожага ГОКу (Гміннага цэнтра культуры) у Дубічах Царкоўных. Дырэктар дубіцкага ГОКу па дагавору з дырэктарам Гайнаўскага дома культуры запрасіў на ўрачыстасць адкрыцця цікавае трыё акардэаністаў Беластоцкай філармоніі.

У канцэртным зале новага ГОКу прайшоў прыгожы канцэрт, на які масава прыйшла моладзь дубіцкай школы. **(вв)**

Фота Л. Пільскі



**Маладыя меламаны з павагай слухаюць музыку.**



**У перапынку. Добрая музыка выклікае прыязную ўсмешку, накіроўвае нас на дабро.**

## Зорчына пошта

„Зорка" прызнала каляровыя кніжкі ніжэй названым сваім чытачам: Юрачку Сцепанюку з Гукавіч (школа ў Клейніках) III кл. за дасканала развязаныя адгаданкі з 51 нумара, Даротцы Попка, вуч. III кл. за цікавы малюнак да апавядання „Жалуды" і Асі Давідзюк, III кл. за цікавы малюнак да апавядання „Хітры заяц". Абедзве дзяўчынкі вучацца ў Барысаўцы, а апавяданні чыталі на ўроках беларускай мовы. Кніжныя ўзнагароды атрымліваюць і Даротка Кердалевіч, Эва Салінская, Алінка Шатыловіч — вучаніцы VI класа школы ў Чаромсевёсцы за ілюстрацыі да казкі „Пяць братоў-цудадзеяў". За ілюстрацыі да гэтай жа казкі атрымлівае кніжкі цэлая беларуская група дзетак з II і III класаў школы ў Плёсках, дзе кожнае дало загаловак да сваёй ілюстрацыі. Гэта Аня Федарук, II кл. мал. „Салдат павіс на дрэве", Сцёпа Грыгарук, II кл. „Скараход спіць пад дрэвам", Славэк Прахарук, II кл. „Стралок страляе ў лесе", „Ліля Сахарчук, III кл. „Асілак вырывае дрэва", Эля Ваўрэнюк, III кл. „Скараход спіць пад дрэвам". Аня Смалеўская, II кл. „Скараход спіць пад дрэвам".

Віншую ўсіх са святам, а ўзнагароджаных — з узнагародай!

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✻ *

Польшча, Беластоцкае ваяв., 17-208 Клейнікі, Школа ў Гародчыне. Еля Саковіч, 7 кл.

* ✻ *

СССР. 34056, г. Ростов нэ Дону, ул. Киргизская, д. 35/27, Десненко Елена, 15 год.

* ✻ *

СССР, 347604, Ростовская обл., г. Сальск ул. Седова — 135, Муслимовой Гуле, 16 год.

* ✻ *

БССР, 220047, г, Мінск, вул. Несцерава д. 72 кв. 61, Сарокіна Марыя, 3 кл.

* ✻ *

БССР. 220047, г. Мінск, вул. Герасіменка д. 18 кв. 24, Скуратовіч Наташа, 3 кл.

* ✻ *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, к. п. Нарач, вул. Нарачанская д. 17 кв. 24, Варанец Наташа, 5 кл.

* ✻ *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, к.п. Нарач, вул. Зялёная д. 2 кв. 6, Сямко Оля, 5 кл.

* ✻ *

СССР, Тульская обл., г. Донской, пос. Шахтёрский, ул. Комсомольская д. 2 кв. 15, Терских Светлана, 5 кл.

* ✻ *

СССР, 420073, г. Казань, ул. Красная позиция, д. 41 кв. 53. Яхиной Диане, 6 кл.

## СВЯТОЧНАЕ ПІСЬМО СІНІЧКІ



Дарагі калега-чалавек, вучань першага, другога, трэцяга, чацвёртага, пятага класаў! Я да цябе звяртаюся ў гэты марозны святочны вечар. У цябе добрае, адкрытае сэрца для птушак і звяроў.

У цябе зіхаціць ёлка. У цябе багаты стол. Ты ясі смачныя блюды. Я жадаю табе добрага апетыту і здароўя.

Але я заглядаю ў тваё акно, чырыкаю. Хачу сказаць табе, што разам з табой цешуся і сумую. Але сёння толькі цешуся. Я не пакінула родны край. Не адляцела. Лепш я ўсё такі на радзіме перазімую. І зімой хачу спяваць табе.

Цяпер жа прашу — не забудзь, пасып мне ў кармушку, ці дзе інакш крышынкі са свайго святочнага стала. За гэта я табе закалядую. Мая песня такая: радуйся, спявай разам з намі, мір ідзе па зямлі!

На гэтым канчаю. Адпішы мне на адрас „Зоркі". Буду чакаць.

**Твая Сінічка.**

## Нашы песні



**ВОЖЫК**

**Музыка М. Пратасава**
**Словы А. Бяляўскага**

**Хор.** Вожык, вожык, вожык, еж!
Дзе жывеш?

**Саліст.** У лесе.

**Хор.** Вожык, вожык, вожык, еж!
Што ты п'еш?

**Саліст.** Расу.

**Хор.** А нашто табе
Іголкі?

**Саліст.** Каб мяне не з'елі
Воўкі!

**Хор.** Ах, вось нашто іголкі.
Ах, вось нашто іголкі.
Каб цябе не з'елі
Воўкі.

**(З рускай мовы)**

# ЧАЛАВЕК І КАМПЮТЭР



5-10 вылічэнняў у мінуту робіць чалавек сваім розумам, у галаве.



10-30 вылічэнняў у мінуту можна зрабіць з дапамогай арыфмаметра ўжо на большых ліках.



10 000 аперацый у секунду праводзілі кампютэры ЭВМ у сярэдзіне 50-х гадоў.



1 000 000 аперацый у секунду выконвалі ЭВМ у сярэдзіне 60 гадоў.



10-15 000 000 аперацый у секунду дасягнула хуткасць вылічэнняў ЭВМ у сярэдзіне 70 гадоў.



125 000 000 аперацый у секунду робіць суперЭВМ „Эльбрус" цяпер. Ёсць і аперацыі, дзе хуткасць лічэння ў дзесяць разоў большая.

Так расла хуткасць працы машын за апошнія 30 год. Неўзабаве ЭВМ будзе лічыць з хуткасцю 1.000 000 000 (адзін мільярд) аперацый у секунду.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Спалучы кропкі ад 1 да 41. Што атрымаў?

## БАРБОС

Па сметніках суседняга двара
Барбос выгульвае свайго гаспадара:
Вядзе за хлеў па снежнай горцы
На доўгай сырамятнай шворцы.
І той дрыжыць ад ветру на рагу,
Пакуль Барбос не задзярэ нагу.
Жыве Барбос у калідоры гулкім
І двойчы ў дзень выходзіць
на прагулкі.
Пазбаўлен права голасу ў кватэры,
І толькі буркне, калі рыпнуць дзверы.
Бывае, на чужым двары пабрэша,
Аб слуп самлелы бок пачэша.
Ён трапіў на забаву шчанюком,
Але запомніў добра родны дом
На ўскраіне далёкага сяла,
Які начамі маці сцерагла.
Яна брахала і на месяц выла,
А у нагах была такая сіла,
Што ад яе праз ямы і карчы
Не мог ні воўк, ні заяц уцячы.
Яна з гаспадаром хадзіла ў поле
І добра знала, што такое воля.
Яна гарод і хату пільнавала...
...А сын цяпер, нібы завала,
У калідоры да кута прырос,
Аглух, асіп і выліняў Барбос,
І часам сніць да гэтае пары
Прасторны двор і хлеў стары.

Сяргей Грахоўскі

## СКАРОЧВАЦЬ — ДЫК СКАРОЧВАЦЬ!

У адной установе працавалі толькі Аслы. Дурасць іх усім абрыдла, і вырашылі скараціць там штаты. І так захапіліся скарачэннямі, што ва ўстанове застаўся адзін Асёл!

А праз месяц адтуль прыйшло паведамленне: „Штаты скарочаны яшчэ на пяцьдзесят працэнтаў!!!"

— Як гэта табе ўдалося? — неадкладна пазванілі Аслу.

— Вельмі проста, — горда адказаў той. — Я цяпер працую праз дзень.

С. Манін




# НІЎКА


З суседскага агародчыка.

У нас на Алтаі.

## ХТО ХУТЧЭЙ

— Міколка, — пытае ў брата сястрычка, — хто ў вашым класе найхутчэй бегае?

— Калі стометроўку, дык Сяргейка, — кажа Міколка, — а калі ў школьную сталоўку, то я хутчэй за ўсіх.

## НЯМА

Наведвальнік да афіцыянта „Рамантыкі":

— Калі ласка, біфштэкс.

— Няма.

— Дык адбіўную катлету.

— Няма.

— Тады яечню.

— Няма.

Наведвальнік устае і гаворыць:

— Дык дайце маё паліто.

Афіцыянт аглядаецца ў бок гардэроба:

— Таксама ўжо няма.

## МОЖНА ПАПРАВІЦЬ

У „Веснік Задрыпоніі" прыходзіць наведвальнік і скардзіцца рэдактару:

— Вы змясцілі памылковае паведамленне аб маёй смерці.

— Спачуваю вам, — адказвае рэдактар, — толькі мы ніколі не памыляемся і не публікуем непраўдзівую інфармацыю. Але мы можам у наступным нумары надрукаваць пра вас у рубрыцы нованароджаных.


Ён заўсёды так у ложак ходзіць.


Свае даўгі найчасцей пакрываў абяцанкамі.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пасля дакладнага абследавання доктар заявіў пацыенту, што жыць яму засталося ўсяго шэсць месяцаў. Выслухаўшы прысуд, хворы сказаў:

— Выбачайце, доктар, як жа я тады паспею заплаціць вам за лячэнне?

— Ну добра, — адказаў лекар, — даю вам яшчэ шэсць месяцаў. Спадзяюся, што гэтага хопіць, каб разлічыцца са мною.

*

Размаўляюць валацугі:

— Хочаш вер, хочаш не, але я магу падрабляць стодаларовыя банкноты так, што ніхто не прыкмеціць падробкі.

— Чаму ж ты гэтага не робіш?

— Ніяк не магу дастаць арыгінал.

*

Хлопчык прыходзіць на ферму:

— Мама прасіла літр каровінага малака.

— Дык твой збан замалы.

— Тады дайце літр казінага.

## РАЗВОД

— Ужо пара, каб развесціся з Іванам.

— Чаму ж тады гэтага не зробіш?

— Не заслугоўвае гэтага.

## У МАГАЗІНЕ

— Грамадзяне, чаго лезеце без чаргі?

— Мая дачка тут прадаўшчыцаю працуе!

— Тады вы за мною. Мой сын у яе — загадчык.

## З „Весніка Задрыпоніі"

## З ІНДЭКСАМ „НАВІНКА"

Зусім знік паток скаргаў на прадукцыю Ачуцінаўскай фабрыкі жаночага адзення пасля таго, як у штаце фірменнага магазіна з'явіўся гіпнатызёр. На працягу аднойдвух мінут яму ўдаецца пераканаць любую з мілых пакупніц, што яна стала ўладальніцай не бракаванай мадэлі, а моднага і элегантнага тавару першага гатунку.

## ПОМНІК




Знойдзены фрагмент старажытнай пабудовы з цікавым малюнкам. Ці патрапіш злажыць фрагменты гэтага малюнка ў адну цэласць?


— Давай закругляцца, а то бялізна перасохне...

# Курёзы

## АЧКО НЕПІСЬМЕННЫМ

Пяць год аддзяляюць нас ад геаграфічнага юбілею — 500-годдзя адкрыцця Амерыкі. У 1492 годзе флатылія з трох суднаў — „Ніны", „Пінты" і „Санта-Марыі" — адплыла ад берагоў Іспаніі і праз 71 дзень дасягнула новага кантынента. Поўным ходам ідзе цяпер пабудова копій гэтых суднаў, якія ў 1992 годзе павінны паўтарыць гістарычнае плаванне Калумба. Як лічаць вучоныя, прынамсі копія аднаго з іх, „Ніны" — будзе так дакладнай, што розніцу не прыкмеціў бы сам Калумб.

Гэты вывад быў зроблены пасля таго, як у Севільскім архіве, дзе захоўваецца каля 45 мільёнаў дакументаў часоў Вялікіх геаграфічных адкрыццяў, выявілася 400 пажоўклых папераў. Гэтыя тэксты выправілі і ўдакладнілі чарцяжы суднаў, якія будуюцца. Велічыню і асаблівасці канструкцыі „Ніны" аказалася магчымым устанавіць дзякуючы таму, што капітан судна не ўмеў чытаць. Таму пералік грузу ён загадаў нанесці проста на чарцяжы судна.




Пазнаць сябе можна. Толькі не заўсёды са службовай характарыстыкі.